


# Газета Слонімская

Газета заснавана ў 1938 годзе. Выходзіць з 1997 года.

№ 4 (33). Слонім. 23 — 29 студзеня 1998г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Кошт свабодны


ГОРОД Есть проблема

# Милосердие с протянутой рукой

**Оказывается, что самыми милосердными людьми у нас являются дети. Именно они, учащиеся городских и сельских школ, в прошлом году собрали для Слонимского общества Красного Креста более 30 миллионов рублей из 65 миллионов, которые получила эта общественная организация.**

**10 млн. руб. на расчетный счет общества внесло управление магистральных газопроводов, 5 млн. — территориальное медицинское объединение, 3 млн. — хлебокомбинат.**

По словам председателя организации Красного Креста Ольги Гавловской, этих денег весьма недостаточно для того, чтобы служба милосердия могла вести более широкую работу по оказанию помощи престарелым и немощным людям. Сегодня в районе и городе десятки одиноких стариков и инвалидов, которые прикованы к постели или не могут выйти из квартиры без посторонней помощи.

Удивительно то, что заботу об этих людях взяла на себя не государственная, а общественная организация — общество Красного Креста, который существует на добровольные пожертвования и с протянутой рукой собирает гроши на свое нищенское существование. А ведь эта организация состоит всего из пяти человек. Кроме Ольги Георгиевны, здесь трудятся четыре сестры милосердия, которые заслуживают, чтобы их назвать поименно: Ирина Тюхай, Антонина Моргунова, Светлана Харитонович и Татьяна Кулецкая. Под их опекой находятся 40 человек, которые не могут жить без их помощи.

—У этих женщин нелегкая работа, — рассказывает Ольга Гавловская. — Они делают своим подопечным перевязки, уколы, всевозможные медицинские процедуры и моют больных людей, покупают им лекарства.

Все расходы коллектива ограничены до минимума. Даже уборку служебных помещений сестры милосердия делают самостоятельно и бесплатно. Очередные отпуска у них также неоплачиваемые. Да и заработную плату, которая в среднем составляет миллион рублей в месяц, порой получают с задержкой из-за отсутствия средств.

Видимо настала пора рассмотреть бедственное положение общества Красного Креста на очередных сессиях городского и районного Советов и принять меры для укрепления его материальной базы. Ведь смогли, например, городские власти разрешить проблему материального обеспечения футбольной команды "Коммунальник", введя трехпроцентный налог в местный бюджет со всех предприятий и организаций города.

—Хочу пояснить. В этом году, — говорит Ольга Гавловская, — от областного комитета Красного Креста мы получили около тонны одежды, бывшей в употреблении. Одежду раздаем бедным людям, пенсионерам и бывшим судимым. Никому не отказываем, потому что прекрасно понимаем — не от хорошей жизни люди идут к нам просить помощи.

Ежедневно Слонимский комитет Красного Креста посещают до 80 человек, и все получают различную помощь.

Валентин ЧУРИЛО

НАВІНЫ

## Свабода вярнулася

**У пятніцу, 16 студзеня, аднавіўся выхад газеты "Свабода", якая была забаронена і не выходзіла 52 дні. Цяпер яна мае новую назву — "Навіны".**

"Навіны" будуць выходзіць з такой жа перыядычнасцю, як і раней — кожны аўторак, сераду і пятніцу. Цяпер газета прадаецца толькі ў розніцу. Аднак рэдакцыя абяцае, што на "Навіны" хутка можна будзе падпісацца.

Сяргей ЁРШ

## Мінскі «дэсант» у горадзе

**Слонімскі гарвыканкам даў дазвол мясцовай Радзе БНФ на правядзенне сустрэчы жыхароў горада з кіраўніцтвам Беларускага Народнага Фронту.**

Сустрэча адбудзецца 25 студзеня ў 15.00 у малой зале РДК. Чакаецца прыезд з Мінска выконваючага абавязкі старшыні БНФ Лявона Баршчэўскага, сакратара ўправы Фронту Вячаслава Сіўчыка і іншых.

Сяргей ЁРШ

## Чытайце ў нумары:


—Уладзімір Высоцкі быў у Слоніме..(2 стр.)
—гісторыя слонімскай прыстані............(3 стр.)
—новыя штрафы..........................................(4 стр.)
—усё пра «Санта-Барбару»......................(5 стр.)
—праграма ТВ............................................(6 стр.)
—рэклама.......................................................(7 стр.)
—вынікі конкурса-красворда.................(8 стр.)


ЦИТАТА НОМЕРА



## Дождемся...

"В городе Слониме еще ни один многоэтажный дом капитально не ремонтировался и, видимо, мы дождемся, что они потихоньку начнут падать".

*(Из выступления директора ПО ЖКХ Константина Зубко на совещании руководства города 10 января)*

ЗДАРЭННІ

## Трагедыя на Брэсцкай

**Жудасная аварыя адбылася раніцай 19 студзеня на вуліцы Брэсцкай насупраць прадуктовага магазіна "Верасок".**

"Мэрсэдэс" сутыкнуўся з трактарам МТЗ. Вынік аварыі трагічны. Вадзіцель аўтамабіля, 24-гадовы Ігар Сікорскі, загінуў на месцы здарэння.

## «Мэрсэдэсы» добра гараць

**На мінулым тыдні ноччу амаль цалкам згарэў аўтамабіль "Мэрсэдэс", які належаў слонімцу С.Б.**

Іншамарка была прыпаркавана на адным з двароў, што на Брэсцкай вуліцы. Вогненны факел успыхнуў прыкладна ў 4 гадзіны раніцы. Жыхары дома № 109, якія першыя заўважылі пажар, спрабавалі сваімі сіламі патушыць агонь. Аднак зрабіць гэта ўдалося толькі пажарным.

Міхась ЗАГОРСКІ

**З 5 па 8 лютага ў спорткомплексе (вул. Пушкіна, 57) пройдзе міжнародны юнацкі турнір па міні-футболу на прыз *"Газеты Слонімскай"*.**

**Для ўдзелу ў турніры запрошаны футбалісты з Беластока (Польшча), Вільнюса (Літва), Гродна, Ліды, Баранавіч, Салігорска, Слоніма (Беларусь).**

# Надзея памірае апошняй



**У мінулы чацвер, 15 студзеня, не працаваў слонімскі гарадскі рынак. Баставалі мясцовыя прыватныя гандляры.**

**У гэты дзень раніцай некалькі сот прадпрымальнікаў сабраліся на рынку, але тавар на прылаўкі выкладваць не сталі і не гандлявалі. Да іх далучыліся прадпрымальнікі, якія гандлююць у мікраеёне «Энка» і на Брэсцкай вуліцы.**

Аказалася, што падобная акцыя аднадчасова праходзіла па ўсёй рэспубліцы.

Беларускія "чаўнакі" выступілі ў знак пратэсту супраць новага парадку падаткаабкладання. Сэнс яго ў тым, што калі чалавек прадаў тавару болей, чым на 130 млн. руб., то ён павінен заплаціць 50% падатку не з прыбытку, а з тавараабароту. Напрыклад, нехта прадаў тавару на 4000 даляраў, 2000 выплаці дзяржаве. Пры такіх умовах, каму захочацца працаваць?

Больш таго, яшчэ да аб'яўлення новых правіл падаткаабкладання, людзей прымусілі запоўніць дэкларацыю аб суме іх тавараабароту. Прадпрымальнікі чэсна гэта зрабілі, не ведаючы, што тым самым, яны падпісалі сабе "прыгавор".

—Калі б людзі своечасова ведалі пра гэтае нававядзенне, то многія наогул перасталі б працаваць, — гаворыць адна прадпрымальніца. — А так людзей паставілі перад фактам ужо "заднім числом". Ад нас патрабуюць дакументы на валюту, а дзе іх узяць, калі нашы банкі валюту не прадаюць!..

—Што нам цяпер рабіць, ісці на біржу працы?! — кажа другі 30-гадовы прадпрымальнік. — Мы нічога не просім у дзяржавы, самі зарабляем на хлеб, кормім свае сем'і, ды яшчэ і падаткі плацім. Найбольш пацярпелі якраз тыя, хто іх рэгулярна плаціў...

Страйкоўцаў-гандляроў падтрымлівалі і пакупнікі.

—Я з вялікім задавальненнем куплю штосьці тут, на рынку, чым у краме, — кажа жанчына пенсіённага ўзросту. —Тут усё танней.

На маё пытанне, што страйкоўцы плануюць рабіць далей, пачуў такі адказ:

—Будзем пратэставаць і далей, а калі нічога не зменіцца, то з першага лютага падаткі плаціць не будзем. Праўда, нас палохаюць, што за нсуплату іх у нас будуць канфіскоўваць маёмасць і прыцягваць да крымінальнай адказнасці.

Слонімскія прадпрымальнікі пакуль яшчэ не арганізаваныя, але плануюць стварыць свой прафсаюз. Аднак, спадзяюцца і на дапамогу ўладаў. Нядаўна яны напісалі ліст прэзідэнту Беларусі, каб ён змяніў сітуацыю.

—Мы спадзяемся, што Лукашэнка нас зразумее і абароніць нашы правы. Надзея памірае апошняй, — гавораць стомленыя і знерваваныя людзі.

Сяргей ЁРШ



ЛЮДИ НАШЕГО ГОРОДА

# Заслуженный тренер



**Справка "ГС":** ***Вилькицкий Геннадий Станиславович, родился в 1938 году в Слониме, заслуженный тренер БССР, награжден медалью " За трудовое отличие" и грамотами Верховного Совета БССР, председатель Слонимского горспорткомитета. К 60-летию награжден почетным знаком " За развитие физической культуры и спорта в Республике Беларусь"***

***—Геннадий Станиславович, сердечно поздравляем Вас с юбилеем — 60-летием со дня рождения.***

—Спасибо огромное. Мне очень приятно, что именно "Газета Слонимская", читателем которой я являюсь, поздравила меня с этой датой.

***—Геннадий Станиславович, неужели 60 лет прошло ?***

—Если честно, то и не верится. Вся жизнь как на ладони. Закрываю глаза и вспоминаю тяжелое, послевоенное детство. Окраина Слонима-Лабазовка, берег любимой Щары. Все мальчишки той поры занимались спортом, играли в волейбол, бегали. И однажды, защищая честь школы на традиционной городской эстафете, я выиграл трудный этап, и меня там приметил мой первый тренер - Хрещиков Арсений Юльянович и предложил заниматься легкой атлетикой. Так определилась моя судьба. Годы долгих тренировок не прошли даром. Я был чемпионом области, чемпионом республики, победителем республиканской спартакиады школьников. После окончания школы от назойливых селекционеров не было отбоя, но я твердо знал, что буду тренером по легкой атлетике и в 1956 году поступил в Минский институт физкультуры.

***—После окончания которого вернулись работать в родной Слоним?***

—В 1960 году начал работать тренером по легкой атлетике в СШ №1. Набрал первую группу и с огромным энтузиазмом принялся за работу. Мне, наверное, повезло в моей тренерской судьбе – результаты не заставили себя долго ждать. Мои первые воспитанники стали чемпионами области, призерами первенства республики. На подходе к настоящим вершинам спортивного мастерства был Николай Дудкин, но в 10 классе он с родителями переехал жить в Россию и в последствии стал чемпионом СССР, Европы в тройном прыжке. Вместе с ним, в те же годы начал заниматься у меня Михаил Желобовский.

***—О том, как Вы нашли будущего чемпиона и рекордсмена Европы Мишу Желобовского по сей день ходят легенды.***

—Дело в том, что о его природном таланте знали многие тренеры, но привлечь Мишу к занятиям на профессиональном уровне не удавалось никому. Я же смог убедить его, что кропотливым трудом и постоянными тренировками мы сможем в результате достичь высоких спортивных успехов. Проблема была еще и в том, что жил Миша в деревне Скипоровичи, что за Козловщиной . И только после неоднократных встреч и разговоров с родителями, я убедил их в том, что Мише необходимо переехать учиться и тренироваться в Слоним. В последствии Михаил Желобовский неоднократно становился чемпионом и рекордсменом БССР, СССР, Европы в беге на 800 и 1500 метров. Участвовал в чемпионате мира и Олимпийских играх, стал мастером спорта международного класса, более 10 лет являлся членом сборной СССР по легкой атлетике.

***—Кого из своих учеников Вы хотели бы еще вспомнить ?***

—Если начать всех вспоминать, то придется потратить несколько номеров вашей газеты. (Смеется). А если серьезно, то, конечно, вспоминаются практически все первые мои выпускники. Это Федор Репинский, Лева Марголин, Виктор Гаркавый, Толя Гончар, Сергей Бочтарев и многие, многие другие.

***—Геннадий Станиславович, мало кто помнит сейчас тот факт, что именно Вы были инициатором и организатором специализированной детско-юношеской спортивной школы по легкой атлетике?***

—В 1978 году стал вопрос о передаче здания СШ № 3 то ли под станцию техобслуживания, то ли под спортивную школу. В то время председателем горисполкома был Виктор Жадейко, который предложил мне возглавить коллектив школы. Не долго раздумывая, я согласился. Ведь это была моя давняя мечта – создать в Слониме специализированную спортивную школу по легкой атлетике.

***—Вы более 15 лет возглавляете Слонимский горспорткомитет. Все ли удалось претворить в жизнь?***

—К огромному моему сожалению - нет. В 1982 году, перейдя на кабинетную работу, я совершил небольшую ошибку. Сейчас мне кажется, что будучи тренером, я бы сделал больше. Тем не менее и на должности председателя горспорткомитета я принялся за дело с огромным энтузиазмом. Но не все зависело только от меня, хотя и здесь были определенные успехи. В 80-х годах наш город становился победителем и призером республиканского соревнования на лучшую постановку и организацию физкультурно-оздоровительной и спортивной работы. Мне больно осознавать, что в настоящее время на предприятиях Слонима работают всего 4 освобожденных инструктора по спорту. Хочется верить, что положение изменится к лучшему.

***—Кто из сегодняшних молодых тренеров своей работой импонирует Вам больше всего, кого бы Вы хотели отметить?***

—Очень много добрых слов заслуживают гребцы во главе с молодым, но очень честолюбивым Игорем Царюком. Давно и не плохо работают легкоатлеты под руководством Леонида Малафея. Стала давать первые плоды футбольная школа "Альбертин" под началом Георгия Вербицкого. Можно отметить секции художественной гимнастики и бокса. В общем тренеры в Слониме есть, тревожит другое. Нам необходимо создавать в спортивной школе отделения по игровым видам спорта - баскетболу и волейболу, а для этого необходимо привлечь в наш город соответствующих специалистов.

***—Геннадий Станиславович, если можно, расскажите нашим читателям немного о своих увлечениях вне работы, о хобби и т.д.***

—Сколько себя помню, всю жизнь люблю рыбалку и охоту. Это моя страсть и увлечение на всю жизнь. И это не случайно. Ведь все мое детство и юность прошли на Щаре. Я знаю возле нее каждый бугорок, каждую тропинку. И сейчас, по возможности, не упускаю момента сходить на рыбалку, побывать на природе. До сих пор в Слониме никто не может превзойти мой рекорд в рыбной ловле – щука весом 16,6 килограмма и размером 138 сантиметров. Так что жизнь продолжается. И 60 лет это не итог, это небольшой период жизненного пути.

**Евгений ЛИШИК**



*1965 год. Г.С. ВИЛЬКИЦКИЙ с будущим призером чемпионата Европы в беге на 800 м. Толей ГОНЧАРОМ*

КУЛЬТУРА

## ГАСТРОЛІ ПА ГРОДЗЕНШЧЫНЕ

Калектыў Слонімскага беларускага драматычнага тэатра правёў пяцідзённыя гастролі па гарадах Гродзеншчыны.

Гледачы Ліды, Бярозаўкі, Навагрудка, Іўя і Ашмян паглядзелі спектакль «Іван Світаннік».

У наступным месяцы слонімскія артысты будуць гастраляваць па гарадах Мінскай і Гомельскай абласцей.

## НАВІНЫ КНІГАРНІ

"Грыбок, грыбок, выстаў лабок" — такую назву мае новая кніжка для дзяцей малодшага і сярэдняга ўзросту нашага земляка Уладзіміра Ягоўдзіка.

Яна выйшла тыражом 5 тысяч паасобнікаў.

Аўтар вельмі цікава расказвае легенды пра тое, як з'явіліся ў лесе грыбы. Кожнае апавяданне аздоблена прымаўкамі.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

ПАДЗЕЯ

# У пракуратуры наваселле



Супрацоўнікі слонімскай міжрайпракуратуры справілі наваселле.

Днямі яны пераехалі ў новы будынак, які літаральна за паўгода вырас на вуліцы Брэсцкай, 40/1. Трэба адзначыць, што падобнага архітэктурнага тварэння не мае ні адна раённая пракуратура Беларусі. На ўзвядзенне будынка пайшло каля 36 млрд. руб. Ён мае, прыкладна, 40 пакояў, гараж на дзве аўтамашыны і іншыя зручнасці для плённай працы супрацоўнікаў пракуратуры.

**Валодзя ЯНЧУК**

# Уладзімір Высоцкі быў у Слоніме

## Да 60-годдзя з дня нараджэння



Ішоў 1968 год. Беларускі рэжысёр Віктар Тураў здымаў на Навагрудчыне фільм "Сыны ідуць у бой". Песні для фільма пісаў і выконваў Уладзімір Высоцкі.

Ён прыехаў на Беларусь разам з Марынай Уладзі — французскай кіназоркай. Дарэчы, радзіма яе бацькі — Навагрудчына. У Францыю ён трапіў у 1914 годзе ў складзе экспедыцыйнага корпуса. Імя Уладзі паходзіць ад скарочанага Уладзіміраўна імя па бацьку. Што датычыць самога Уладзіміра Высоцкага, дык ён родам з Мяшчанскае Слабады, што ў Маскве, якая з XVII стагоддзя была заселена беларусамі (Высоцкі сам часта згадваў, што ягоныя карані — на беларускім Палессі).

І вось далёкія нашчадкі беларусаў завіталі на радзіму сваіх продкаў. Іх пасялілі не ў раённай гасцініцы, дзе жылі акцёры і ўсе стваральнікі фільма "Сыны ідуць у бой", а ў вёсцы: начлег на сене, пад страхой сялянскага хлява, знізу ўсю ноч па-добраму ўздыхала карова, задумліва жуючы жуйку... Парыжанка і Уладзімір Сямёнавіч былі ў захапленні ад усяго гэтага. У бабкі яны пражылі дзён дзесяць, а потым толькі вярнуліся ў Навагрудак, каб Уладзімір Высоцкі змог запісаць песні да фільма. Праўда, паміж працай яны ездзілі на возера Свіцязь, у Баранавічы, Дзятлава і ў Слонім. У Слоніме Марына Уладзі і Уладзімір Высоцкі любаваліся каналам Агінскага, хадзілі па старых завулках, а пасля яны наведалі Жыровічы. Ці мог хто ведаць у той час, што такія знакамітасці і таленавітыя людзі былі побач. Пра Уладзіміра Высоцкага і Марыну Уладзі на Гродзеншчыне шмат разоў згадвалі пісьменнік Алесь Адамовіч і мастак кіно Яўген Ганкін. Яны былі сведкамі іх захаплення беларускім краем і людзьмі.

25 студзеня Уладзіміру Высоцкаму споўнілася б толькі 60 гадоў. Паэт некалі абяцаў: "Я, конечно, вернусь - весь в друзьях и в мечтах. Я, конечно, спою — не пройдет и полгода". Але паэт і спявак памыліўся, бо яму не трэба вяртацца, таму што Уладзімір Высоцкі нікуды не знікаў, яго песні застаюцца з намі.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.
Юрыдычны адрас : 231800, г. Слонім, вул.Брэсцкая, 109-1-12.
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК.
Адрас рэдакцыі: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5. Тэл. 2-14-39.
E-mail: rues@slonim.belpak.grodno.by
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.
Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.
Падпісана да друку 22 студзеня 1998 г. Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.
Падпісны індэкс 64042.
Наклад 6.800 экз. Заказ № 152

# НАША СПАДЧЫНА




РОДНЫ КУТ

## Канал Агінскага



*Кацер «Шчара». 1937 год.*

З Навагрудскага ўзгор'я, ад балот Калдычаўскіх, з тых месц, дзе нарадзіўся вялікі Міцкевіч, плывуць воды Шчары. Мінаюць яны Жыровіцкія святыні, Слонім, а далей іх чакае "бацька" Нёман. Канал Агінскага, які праходзіць праз Слонімскія землі, аб'яднаў воды Балтыйскага мора і Чорнага. Будаўніцтва канала прыпадае менавіта на той час, калі Слонім дасягнуў найбольшага росквіту, дзякуючы асобе Міхала Агінскага, які ў 1775 годзе стаў старостай Слоніма. У горадзе ён пабудаваў 116-пакаёвы палац, тэатр оперы і балета (53 музыканты). Горад рос эканамічна. Будуецца шмат фабрык, каналізацыя, драўляны водаправод. Але вянцом дзейнасці Агінскага стаў яго канал. У выніку чаго гарады ад сённяшніх Херсона да Калінінграда набылі адну водную артэрыю. Такім чынам праз Слонім праходзіла дарога з Поўдня на Поўнач. Са Слоніма водным шляхам можна было патрапіць як у Польшчу, так і на Украіну. Дарэчы, у Польшчы гэтая магістраль функцыянуе і цяпер.

Сам канал у Слоніме — маленькі кавалачак гэтага шляху. А, каб навігацыя была стабільнай, на Шчары будуюцца шлюзы, якія трымалі ўзровень вады. Ад вусця Шчары да Нёмана было дзесяць шлюзаў. Па Шчары сплаўляўся лес, перавозілася скура, збожжа, сукно, піламатэрыялы. У той час Слонім меў пяць лесапільных заводаў. Уніз па цячэнню баржы ішлі сваім ходам, а вось уверх іх спачатку цягнулі людзі, а потым коні. На пачатку стагоддзя з'явіліся параходы. А ў 30-ыя гады да прыстані Слонім былі прыпісаны два дызельныя кацеры "Шчара" і "Тадэуш Рэйтан". Усе службовыя памяшканні воднай гаспадаркі і прыстань знаходзіліся на канале на месцы цяперашняга парку.

З вясны 1947 года з'явілася шэсць буксірных кацяроў, некалькі трафейных жалезных баржаў. Да 1957 года ў Слоніме існавала прафесія рачніка. Сёння мы згубілі Шчару, як транспартную артэрыю. Дзесьці ў 1957-1958 гадах у горадзе працавала праектная брыгада з Масквы па пабудове Чарнаморска-Балтыйскага канала, які павінен быў праходзіць праз Слонім, але наш горад так і не стаў портам. За апошнія дзесяцігоддзі Шчара значна абмялела, яе русла мяняе напрамак, плаціна разбурана, берагі размытыя...

**Вячаслаў СЦЯПУРА**



*Кацер «Тадэуш Рэйтан». 10 жніўня 1934 года.*

АСОБА *Нашы землякі*

## Даследчык гісторыі



Дзяцінства і юначыя гады Васіля Мялешкі прайшлі ў вёсцы Мяльканавічы. Не ўсе тады, у 30-я гады маглі вучыцца і нават скончыць пачатковую школу. А Васілю гэта ўдалося. І нават у нечым пашанцавала. Бо на апошнім годзе вучобы ў школе праходзіў так званы «ўрок адкрытых дзвярэй», на які з'ехаліся настаўнікі Слонімскага павета. Васіль, відавочна, вызначаўся сваімі адказамі, бо на наступны дзень яго бацьку запрасіў да сябе дырэктар Слонімскай сямігадовай школы Ежы Маеўскі, які прапанаваў аддаць хлопчыка для працягу вучобы ў яго школу. Так Васіль Мялешка трапіў у Слонім, дзе ў 1940 годзе скончыў сямігодку і паступіў у Баранавіцкі настаўніцкі інстытут.

У час вайны Васіль Мялешка пайшоў на фронт добраахвотнікам. Ваяваў на Волхаўскім, Ленінградскім, Паўночна-Заходнім і ІІ-м Прыбалтыйскім франтах. Двойчы быў паранены і кантужаны. Узнагароджаны ордэнамі «Айчыннай вайны» І і ІІ ступеняў і медалямі. Пасля дэмабілізацыі — працаваў на партыйнай і педагагічнай рабоце,адначасова вучыўся на гістарычным факультэце Белдзяржуніверсітэта.

Цяпер Васіль Іванавіч жыве ў Мінску. Ён — доктар гістарычных навук, член-карэспандэнт АН Беларусі, аўтар шматлікіх артыкулаў і кніг.

Наш зямляк даследуе аграрную гісторыю Беларусі феадальнага перыяду, а таксама класавую барацьбу ў беларускай вёсцы ў другой палове XVII — XVIII стагоддзя.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Перыядычны друк Слонімшчыны

У Слоніме першыя газеты з'явіліся ў 20-х гадах XX ст. Кожную суботу на працягу 1924-26 гг. у горадзе выходзіла "Echo Slonimskie" ("Слонімскае рэха"). Адначасова ў тыя ж гады ў Слоніме выдавалася "Gazeta Slonimska", якая да нашага часу , на жаль, не захавалася. Гэтыя газеты друкаваліся на польскай мове і асвятлялі грамадскае і культурнае жыццё Слонімшчыны. Мела сваю газету і яўрэйскае насельніцтва горада. Так, з 1926 года калінікалі, а з 1929-га рэгулярна па пятніцах выходзіў іх штотыднёвік "Slonimer Wort" ("Слонімскае слова"), які шмат увагі ўдзяляў мінуўшчыне нашага краю. Гэтая газета выдавалася да верасня 1939 года, пакуль яе не забаранілі бальшавікі.

У 1930-я гады на польскай мове, час ад часу, выходзілі "аднадзёнкі" Саюза польскага настаўніцтва і школьнай моладзі. Напрыклад, часопіс "Echo murou sczkolnych" ("Рэха школьных муроў") выдаваўся ў гімназіі імя Т. Касцюшкі, якая знаходзілася ў будынку сённяшняга вучэбна-вытворчага камбіната. Рэдактарам быў настаўнік, а вершы, замалёўкі пісалі вучні. У настаўніцкай семінарыі быў свой часопіс - "Nascza mys'l" ("Наша думка"). Жыровіцкая сярэдняя сельскагаспадарчая школа выдавала часопіс «Zyroviak».

У той час побач з легальным існаваў і нелегальны друк. У канцы 1932 года ў вёсцы Мяльканавічы мясцовая моладзь выдавала газету "Піянер". Бадай, гэта была першая слонімская газета на беларускай мове. Яе пісалі ад рукі і памнажалі на шапірографе. "Піянер" расказваў пра масавыя выступленні моладзі на Слонімшчыне, пра іх барацьбу за школу на роднай мове. Адказным рэдактарам газеты быў Уладзімір Бялько, які трагічна загінуў у 1933 годзе.

У снежні 1938 г. - сакавіку 1939-га ў горадзе вядомы беларускі паэт Сяргей Новік-Пяюн выдаваў штотыднёвік на польскай мове "Gazetu Slonimsku". Рэдактарам газеты была яго жонка — Людміла Новік. У красавіку 1997 года яе выданне было адноўлена, але ўжо на беларускай і рускай мовах.

У верасні 1939 года ў Слоніме савецкія ўлады наладзілі выпуск беларускамоўнай "Вольнай працы". Яе першым рэдактарам стаў Іосіф Чарняўскі, які быў прысланы ў горад з савецкай Беларусі. Газета выходзіла да пачатку вайны і аднавіла свой выхад ужо пад нямецкай акупацыяй у кастрычніку 1943 г., як падпольнае выданне. Рабілася яна ў Воўчых Норах у партызанскай друкарні і з'яўлялася органам падпольнага камуністычнага райкама. Рэдагаваў "Вольную працу" Мікалай Бурсевіч. У траўні - чэрвені 1944 года Слонімскі антыфашысцкі камітэт выдаў два нумара газеты "Барацьба", якая таксама распаўсюджвалася падпольна.

З дазволу нямецкіх акупантаў і пад пільным наглядам іх цэнзуры, у 1944 годзе ў Слоніме выходзіў штотыднёвік "Slonimski kur'er". У студзені-красавіку было выдадзена 16 нумароў гэтай газеты накладам па 15 тысяч (!) паасобнікаў. Спачатку яе рэдактарам быў доктар Войтанка, а пасля — слонімскі паэт Сяргей Хмара. З 25 красавіка 1944 года газета стала называцца "Слонімскай газэтай". Друкавалася яна ў Баранавічах на беларускай мове лацінскімі літарамі да чэрвеня 1944 г. У тых жа Баранавічах пад час нямецкай акупацыі для Слонімшчыны выдавалася "Северокавказская газета". Прызначалася яна для каўказцаў, якія перасяліліся ў наш раён з усходу.

Пасля вайны у Слоніме доўгі час існавала толькі адна газета, як орган камуністычных уладаў — "Вольная праца" (з 1962 года — "За перамогу камунізма"). Выходзіла яна тры разы на тыдзень. Цяпер яна змяніла назву на "Слонімскі веснік".

У 1940-60 гадах у нашым горадзе выходзіла вайсковая газета "На штурм!" (пазней — "Кутузовец"). Але гэта было выданне закрытага характару. "Из части не выносить!" — такі надпіс быў пад лагатыпам "Кутузовца".

Сапраўдны "зорны час" слонімскай прэсы прыпадае на 1990-я гады, калі знікла камуністычная цэнзура. У 1990 годзе выйшла некалькі нумароў "Информационного вестника" гаркама камсамола, "Молодежи Слонима". Рэдагаваў іх Руслан Генюш, які ў 1996 годзе накладам у 500 паасобнікаў выдаў адзін нумар газеты "Вечерний Слоним с Русланом Генюшем". Аднак да чытача газета не патрапіла. Выходзіла ў Слоніме і спартыўная газета — "Футбольный меридиан".

На сённяшні дзень у нашым горадзе існуе дзве газеты — незалежная "Газета Слонімская" і орган мясцовых уладаў "Слонімскі веснік".

**Сяргей ЁРШ, Сяргей ЧЫГРЫН**

## КРАСВОРД «СЛОНІМСКІ»

**Па гарызанталі: 5**. Беларускі рэвалюцыянер, камандзір паўстанцкага атрада на Слонімшчыне ў 1833 годзе. **6**. Сын вялікага князя літоўскага Гедыміна, якому належаў Слонім у 1340-1345 гадах. **8**. Горад, цэнтр раёна, які мяжуе са Слонімшчынай. **11**. Правадыр племені, з развіццём феадалізму — правіцель дзяржавы. **14**. Слонімскі паэт, ураджэнец вёскі Збочна. **15**. Абласны цэнтр Беларусі, у якім нарадзіўся паэт Тодар Лебяда, які ў 1960-62 г. жыў у Слоніме. **16**. Славуты староста слонімскі, імя якога носіць адна з плошчаў нашага горада. **17**. Чалавек, які любіць падарожнічаць. **20**. Беларускі палітычны дзеяч, ураджэнец вёскі Едначы, шматгадовы вязень польскіх і бальшавіцкіх турмаў. **22**. Вонкавая вертыкальная паверхня будынка. **23**. Стаянка войска па-за населеным пунктам для начлегу ці адпачынку. **26**. Назва слонімскай вуліцы. **27**. Наш зямляк, генерал, які арганізоўваў вайсковыя аддзелы пры напалеонаўскім войску ў 1812 годзе. **28**. Камандзір паўстанцкага атрада на Слонімшчыне ў 1831 годзе.

**Па вертыкалі: 1**. Слонімскі паэт, які загінуў у сталінскіх лагерах. **2**. Вёска ў Слонімскім раёне. **3**. Тканіна. **4**. Гарадскі пасёлак у Клецкім раёне, дзе ў 1921-1923 гадах знаходзіўся штаб беларускай антыбальшавіцкай партызанскай арганізацыі «Зялёны Дуб», якім кіраваў слонімец Уладзімір Ксяневіч («Грач»). **7**. Генерал, камандуючы саксонскімі войскамі, якія знаходзіліся ў Слоніме ў 1812 годзе. **9**. Вёска ў Слонімскім раёне, цэнтр сельсавета. **10**. Горад на Бліжнім Усходзе, які ў XV ст. наведаў слонімец Аляксандр Солтан. **12**. Вёска ў Слонімскім раёне. **13**. Аўтаномная вобласць на поўначы Іспаніі, у якой пабываў пад час свайго падарожжа Солтан. **18**. Агульная назва англійскіх народных танцаў, якія былі пашыраны ў краінах Еўропы, у тым ліку і ў Беларусі, у XVII-XIX ст. **19**. Наш зямляк, былы міністр абароны Беларусі. **21**. Прыродная з'ява, якая адбылася ў Слоніме ў 1958 годзе. **24**. Прозвішча слонімскага паэта, ураджэнца вёскі Чамяры. **25**. Прыток Нёмана.



**Склаў Сяргей ЁРШ**

# КЛАКСОН

## Новы закон - высокія штрафы

***Нядаўна ўступіў у сілу Закон "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Кодэкс РБ аб адміністрацыйных правапарушэннях".***

Гэтыя новыя нормы Кодэкса ў першую чаргу датычаць аўтааматараў і прафесійных вадзіцеляў. Найбольш значныя змяненні ўнесены ў тыя артыкулы Кодэкса, якія прадугледжваюць адказнасць за парушэнне Правілаў дарожнага руху. Так, за кіраванне транспартам у нецвярозым стане вадзіцелі могуць быць аштрафаваны ад 5 да 20 мінімальных заработных плат (МЗП). А калі вадзіцель паўторна на працягу года сядзе п'яны за руль аўтамабіля, то на яго будзе накладзены штраф у памеры ад 10 да 30 МЗП, альбо ўвогуле ён можа быць пазбаўлены вадзіцельскіх правоў на тэрмін ад 36 да 60 месяцаў. Вадзіцель можа быць пазбаўлены правоў і за перавышэнне хуткасці руху больш чым на 20 км у гадзіну.

Так, калі вадзіцель паўторна на працягу года перавысіў устаноўленую хуткасць руху пасля накладання на яго адміністрацыйнага спагнання, то ён можа быць пазбаўлены вадзіцельскіх правоў на тэрмін ад 6 да 12 месяцаў. Вядома, пры накладанні спагнання на парушальніка, будуць улічвацца абставіны справы, якія і змягчаюць, і абцяжарваюць правапарушэнне.

Раней шмат пытанняў і непаразуменняў узнікала пры спыненні транспартных сродкаў супрацоўнікамі міліцыі ў цёмны час сутак паза населенымі пунктамі. Не сакрэт, што былі выпадкі, калі злачынцы, надзеўшы на сябе форму супрацоўнікаў міліцыі, спынялі транспартныя сродкі ў бязлюдных месцах з мэтай абрабавання. Таму многія вадзіцелі часам не спыняліся на патрабаванні дзяржаўтаінспектара. Цяпер гэты момант тлумачыцца тым, што "у цёмны час сутак паза населеным пунктам побач з супрацоўнікам міліцыі павінен знаходзіцца спецыяльны аўтамабіль з праблісквальным маячком".

Значна ўзраслі штрафы і да тых асобаў, хто кіруе транспартным сродкам, не маючы пры сабе вадзіцельскага пасведчання, ці талона да яго, а таксама ў адносінах да тых, хто перадаў кіраванне аўтамабілем, ці іншым транспартам, асобе, якая не мае пры сабе вадзіцельскага пасведчання, альбо талона да яго. За гэта накладваецца штраф у памеры ад 0,5 да 3 МЗП. У Кодэксе ўказаны таксама катэгорыі супрацоўнікаў міліцыі, якія маюць права накладаць адміністрацыйныя спагнанні на вадзіцеляў.

Варта адзначыць, што за асобныя парушэнні Кодэкса штраф можа быць утрыманы на месцы парушэння без складання пратакола. Пры гэтым пасля спагнання штрафу, супрацоўнік міліцыі абавязаны выдаць квіток устаноўленага ўзору аб прыёме штрафу. Адзначана, што калі парушальнік Правіл дарожнага руху не згодны з рашэннем дзяржаўтаінспектара, штрафаваць яго на месцы парушэння забаронена.

Больш жорсткай стала адказнасць за кіраванне транспартнымі сродкамі без нумарных знакаў. За гэта прадугледжаны штраф у памеры ад 2 да 5 МЗП.

Да 0,2 МЗП прадугледжаны штраф за парушэнне правілаў карыстання матацыклами і рамянямі бяспекі, ад 25 да 125 тысяч рублёў можа быць аштрафаваны возчык, што кіруе гужовым транспартам, які парушыў Правілы руху.

Недысцыплінаваныя пешаходы, якія парушаюць Правілы дарожнага руху, могуць быць папярэджаны супрацоўнікамі ДАІ, альбо аштрафаваны на суму ад 25 да 125 тысяч рублёў. Прычым, для пешахода прадугледжаны штраф ад 0,5 да 3 МЗП за парушэнні, якія сталі следствам стварэння аварыйнай сітуацыі.

Увогуле, за парушэнні Правіл дарожнага руху ўнесены змяненні ў 38 артыкулаў Кодэкса РБ аб адміністрацыйных правапарушэннях.

**Валянцін ЧУРЫЛА, юрыст**



## СОВЕТЫ БЫВАЛЫХ

● Если на ВАЗ-2106 вдруг на ходу прихватит морозом радиатор (при условии, что в нем вода) и температура резко повысится, то нужно проделать такую операцию.

Поставить автомобиль по ветру и поменять полярность привода у электродвигателя вентилятора (поменять местами провода + и -), заставив крыльчатку вращаться в обратную сторону. Закройте капот, и теплый воздух от горячего двигателя будет нагнетаться на радиатор, и он отойдет. Когда циркуляция восстановится и температура охлаждающей жидкости войдет в норму, снова поменяйте подключение проводов у электродвигателя и продолжайте движение.

● Если из-под крышки головки блока двигателя ВАЗ-2108 по верхней плостксти прокладки вытекает масло, то нужно приклеить прокладку «Моментом» к крышке, предварительно обезжирив поверхности. Течь прекратится.

● Если в дороге будет пробит нижний бачок радиатора, то доехать до дома можно, поставив радиатор «вверх ногами» и привязав его проволокой (для этого на ВАЗ-2101 нужно снять кожух вентилятора и капот).

● На календаре зима, а вам приходится оставлять автомобиль на улице. За 2-3 км от стоянки отключите отопление салона, чтобы стекла охладились. Поставив автомобиль, нужно засыпать лобовое и заднее стекла снегом (слоем 3-5 см). Утром достаточно будет смести снег щеткой, и окна — чистые.

● Зимой в салон автомобиля неизбежно попадает снег с ног. Талая вода вместе с конденсатом затекает под коврики, и днище ржавеет. Положите под коврики решетки, предназначеные для кухонных раковин. Появится вентиляция, и днище будет сухое.

● При появлении на полосках обогревателя заднего стекла пятнышек коррозии, на этих местах прекращается подогрев. Промажьте поврежденные места графитовым порошком, смешанным с небольшим количеством эпоксидного клея, и электрическая цепь восстановится.

● В слякоть, дождь на запирающуюся пробку бензобака можно надеть пластмассовую крышку из-под пасты «Суржа» или иную подходящего размера. Вода в пробку не попадет, а в случае мороза — не наделает хлопот.

## Зодиакальные водители

Если вы постоянно попадаете в автомобильные неприятности, то виной может быть не ваша невнимательность и неопытность, а ... знак Зодиака. Оказывается, больше всего аварий приходится на *Тельцов*, а самые аккуратные водители — *Скорпионы*. Вы можете оценить свои водительские перспективы по следующим цифрам: из каждой сотни аварий 9,76% приходится на *Тельцов*, 9,03% — *Близнецов*, 8,96% — *Дев*, 8,54% — *Овнов*, 8,48% — *Раков*, 8,43% — *Рыб*, 8,21% — *Козерогов*, 8,17% — *Весы*, 8,12% — *Водолеев*, 7,85% — *Львов*, 7,34% — *Стрельцов*, 7,11% — *Скорпионов*.

## Бензин нынче дорог

От Слонима до Западной Европы не так далеко. При счастливом стечении обстоятельств расстояние, отделяющее нас от Европейского Союза, на автомобиле удается проскочить за сутки. Однако, в дороге нашего водителя подстерегают минимум две серьезные полосы препятствий. Сначала — это заторы на белорусско-польской границе. А потом жесткий экологический контроль на польско-немецком рубеже. Однако при желании преодолеть обе линии обороны можно. И тогда, если выхлоп в норме, документы на машину в порядке, страховка заблаговременно оформлена, вам остается только гнать свой авто по гладким европейским дорогам да периодически притормаживать у бензоколонок.

С точки зрения цен на горючее, Европа — не самый дешевый регион мира. В среднем стоимость литра бензина пляшет там вокруг одного доллара. Для сравнения: в Соединенных Штатах за ту же сумму отпускают галлон топлива, то есть почти 4 литра. А в отдельных ближневосточных государствах за доллар можно неделю поить бензином четырехколесного друга.

Западноевропейские автомобилисты обычно не пользуются бензином с октановым числом менее 92 (чаще оно еще выше — 95-97). На заправочных станциях предлагают бензин с пониженным содержанием свинца (unleaded по-английски) и обычный (leaded). Последний во многих странах обозначают словом super. В Германии, правда, существуют разные марки: и со свинцом, и без.

«Экологический» бензин повсеместно стоит меньше, чем обычный: в государствах Западной Европы искусственно поддерживаются более низкие цены на бензин с невысоким содержанием свинца, чтобы автомобилисты предпочли именно его.

Дизельное топливо обходится значительно дешевле бензина в большинстве западноевропейких стран, хотя и не везде. Скажем, в Великобритании уровни цен на два этих типа горючего различаются незначительно.

От страны к стране стоимость топлива колеблется достаточно сильно.

В Голландии горючее дорогое. А самый дешевый бензин в странах Европейского Союза продается почему-то в Люксембурге. Расхождение в ценах между двумя этими странами составляет 40%.Скандинавские страны — особый случай. Топливо там облагается большими налогами, поэтому стоит оно дороже, чем где бы то ни было в Старом Свете.

Приводимую ниже таблицу следует воспринимать не как догму, а лишь как ориентир. На самом то деле и внутри одной страны цены на разных бензоколонках не бывают абсолютно одинаковыми. Скажем, те заправочные станции, которые стоят на скоростных трассах, отпускают свой продукт дороже, нежели колонки на второстепенных магистралях. В Швеции и Финляндии средняя цена горючего увеличивается с юга на север.

### *Сколько стоит горючее в европейских странах*

| Страна | Бензин с низким содержанием свинца( $/1 литр) | Бензин с содержанием свинца (super)($/1 литр) | Дизельное топливо ($/1литр) |
|---|---|---|---|
| Бельгия | 0,91 | 0,98 | 0,71 |
| Великобритания | 0,90 | 0,98 | 0,88 |
| Германия | 0,89-0,98 | 0,95-1,04 | 0,59 |
| Греция | 0,72 | 0,78 | 0,52 |
| Дания | 1 | 1,04 | 0,79 |
| Исландия | 1,13 | не продаётся | 0,43 |
| Испания | 0,7 | 0,77 | 0,5 |
| Италия | 0,95 | 1,02 | 0,6 |
| Люксембург | 0,64 | 0,74 | 0,57 |
| Нидерланды | 0,98 | 1,07 | 0,67 |
| Норвегия | 1,49 | 1,28 | 1,04 |
| Португалия | 0,8 | 0,91 | 0,55 |
| Франция | 0,91-0,96 | 1,02 | 0,63 |

## Место «приписки» автомобиля

***Как по регистрационному номеру автомобиля (гос. номер) определить, из какого региона он прибыл. Сегодня мы предлагаем вашему вниманию ГАИшный код, применяемый в России.***

01 - Адыгея
02 - Башкирия
03 - Бурятия
04 - Горный Алтай
05 - Дагестан
06 - Ингушетия
07 - Кабардино-Балкария
08 - Калмыкия
09 - Карачаево-Черкесия
10 - Карелия
11 - Коми
12 - Марий-Эл
13 - Мордовия
14 - Якутия
15 - Северная Осетия
16 - Татарстан
17 - Тува
18 - Удмуртия
19 - Хакасия
20 - Чечня
21 - Чувашия
22 - Алтай
23 - Краснодар
24 - Красноярск
25 - Приморье
26 - Ставрополь
27 - Хабаровск
28 - Амурская обл.
29 - Архангельск
30 - Астрахань
31 - Белгород
32 - Брянск
33 - Владимир
34 - Волгоград
35 - Вологда
36 - Воронеж
37 - Иваново
38 - Иркутск
39 - Калининград
40 - Калуга
41 - Камчатка
42 - Кемерово
43 - Киров
44 - Кострома
45 - Курган
46 - Курск
47 - Ленинградская обл.
48 - Липецк
49 - Магадан
50 - Московская обл.
51 - Мурманск
52 - Нижний Новгород
53 - Новгород
54 - Новосибирск
55 - Омск
56 - Оренбург
57 - Орел
58 - Пенза
59 - Пермь
60 - Псков
61 - Ростов
62 - Рязань
63 - Самара
64 - Саратов
65 - Сахалин
66 - Екатеринбург
67 - Смоленск
68 - Тамбов
69 - Тверь
70 - Томск
71 - Тула
72 - Тюмень
73 - Ульяновск
74 - Челябинск
75 - Чита
76 - Ярославль
77 - Москва
78 - Санкт-Петербург
79 - Еврейский АО
80 - Бурятский
81 - Коми-Пермяцкий
82 - Корякский
83 - Ненецкий
84 - Таймырский
85 - Усть-Ордынский
86 - Ханты-Мансийский
87 - Чукотский
88 - Эвенкийский
89 - Ямало-Ненецкий

## ДОСУГ

# Клуб любителей «Санты-Барбары»

30 июля 1984 года в США на телеэкраны вышла первая серия суперсериала "Калифорнийский клан", известного ныне всему миру под названием "Санта-Барбара".

Главные события фильма происходят в городе Санта-Барбара, который находится в 100 милях к северу от Лос-Анжелеса на побережье Тихого океана. В нем имеют виллы такие американские знаменитости как Майкл Дуглас, Джон Траволта, Рональд Рейган.

Спустя несколько месяцев со дня показа первой серии фильма на "Санта-Барбару" обрушился шквал наград и специальных призов: "Лучший дневной сериал", "Выдающийся драматический сериал", а "Лучшего актера" и "Лучшую актрису" получили Эй Мартинес и Мэрси Уолкер, сыгравшие романтическую пару Круз-Иден.

"Мыльная опера" оздоровляет семью. Зрителям нравится наблюдать, как герои борются друг с другом, как они увлечены любовной страстью и их чувства неистовы. «Показать характеры» важнее, чем лихо закрутить сюжет", - считают создатели фильма, сценаристы Бриджитт и Джером Добсоны. Кто же они такие, эти Добсоны, люди, чьи имена знают, без преувеличения, во всем мире?

**Бриджитт Добсон** родилась в городе Милуоки, штат Висконсин, но детство её прошло в Лос-Анджелесе. Она училась в Стэндфордском университете, затем перевелась в Гарвардский, и все же закончила обучение в том же Стэндфорде, получив ученую степень. Училась Бриджитт на отделении, где готовили сценаристов телешоу и сериалов. Она не случайно поступила на это отделение. Дело в том, что ее родители, Фрэнк и Дорис Харслей, были довольно известными сценаристами.

**Джером Добсон** родился в Висалии, штат Калифорния. Учился в Блумфилд-Хилз, штат Мичиган, затем поступил в Стэндфордский университет. Два года служил в армии США. Никакого отношения к ремеслу сценариста Джером не имел, пока не познакомился с Бриджитт. Он занимался выращиванием грецких орехов, служа в компании "Золотые орешки Калифорнии". В 1961 году их судьбы соединились. Джером признавался журналистам, что учился писать "мыльные оперы", "заглядывая через плечо своей жены..." Свыше двух десятков лет они накапливали сценарный опыт. Итогом совместной работы стали сериалы "Путеводный свет", "Пока Вселенная вращается" и другие. Однако всемирную известность чета Добсонов обрела после "Санта-Барбары".

Все началось с того, что компания ЭН-БИ-СИ предложила супругам создать телесериал. В то время Добсоны жили в Санта-Барбаре и сами мечтали написать сценарий о "страстных калифорнийских чувствах".

"Когда нас пригласили на ЭН-БИ-СИ и попросили сделать сценарий для нового сериала, - вспоминает Джером, - мы поначалу отказались. Тем более, Бриджитт работала тогда над новой пьесой, и ей совсем не хотелось прерывать работу. Но телекомпания попросту нас "подкупила": шоу нам предложили взять в собственность. То есть, по сути, мы с Бриджитт становились полными хозяевами сериала. От такого глупо было бы отказаться..."

Год от года популярность сериала росла, на сегодняшний день его посмотрели в 48 странах мира. Например, во Франции фильм показывали в самых посещаемых туристами местах: в Люксембургском саду, у Триумфальной арки. Невероятная популярность во Франции спровоцировала серьезный туристический бум - в Санта-Барбару хлынули толпы французских туристов, а владельцам магазинов в этом городе пришлось срочно заняться французским языком, чтобы не ударить перед клиентами лицом в грязь .

И действительно, "барбомания" так охватила французов, что в стране возникло множество клубов, где собирались тридцатилетние фанаты, обсуждая очередные серии, заключая пари и делая ставки - кто на ком женится, кто кого обманет. Французские социологи ломали головы, пытаясь ответить на вопрос: чем же американская "мыльная опера" так поразила французов? Ответ был таким: любовь, любовь, и еще раз любовь.

Восемь с лишним лет длились съемки гигантского фильма. Было отснято 2500 серий. За это время многие актеры сменились, и одного персонажа играли два, три, а то и четыре-пять актеров! Вот и получилось, что за сериал сменилось три Лейкен, четыре Сантаны, три Мейсона, две Джины, четыре Келли, пять Си Си, а Брендона играли аж шесть мальчиков.

Сейчас уже трудно подсчитать, сколько высших телевизионных наград "Эмми" получили актеры и создатели сериала, счет идет на десятки. Лауреатами премии становились режиссеры, композиторы, музыканты и авторы диалогов, костюмеры и осветители. Сериал стал поистине "звездным".

Нам хочется рассказать несколько забавных случаев, которые произошли во время съемок сериала с актерами и режиссерами. Итак...

...Однажды во время съемок любовной сцены кровать под Джедом Элланом (Си Си) и Джудит Макконел (София) провалилась.

...Актриса Луис Сорель (Августа) должна была по сценарию искать тайник под полом второго этажа своего дома. Простукивая пол, она, видимо, не рассчитала силу удара, и одна из досок не выдержала. Треснув, образовалась дыра, в которой застряла рука Сорель.

...Режиссер Майкл Глионо решил сняться в одной из серий в роли официанта. Однако поднести куриный салат он не смог: споткнулся и опрокинул блюдо прямо на героиню, запачкав актрису с ног до головы. На этом Майкл оставил свои попытки сделаться актером...

**P.S.** Уважаемые читатели! Если вам интересна новая рубрика "Клуб любителей Санта-Барбары", то в следующих своих номерах мы расскажем о личной жизни, пристрастиях, увлечениях актеров и постановщиков сериала, их творческих биографиях, взаимоотношениях друг с другом. Ждем ваших писем.




Подготовили: Андрей ГРИПИЧ, Игорь ЗАХАРОВ, Игорь БОРУК, Виктор КРОТ

